# Новы сцэнар

Так шмат казалася, так шмат людзей рыхтавалася да 19 кастрычніка, што напярэдадні можна было здагадвацца — хада падзеяў будзе іншаю, чым гэта абвяшчалася (з абодвух бакоў). Вось чаму я абраў ролю зацікаўленага назіральніка збоку, для якога важныя як тэндэнцыі, так і індывідуальныя іх праявы.

Усё ў той дзень у Менску пачыналася з ваганьняў на плошчы Якуба Коласа — адразу было незразумела, колькі людзей зьбярэцца на маніфэстацыю пасьля кампаніі запалохваньняў. З надзеяй ці з расчараваньнем прысутныя ўглядаліся ў натоўп, які пульсаваў — то пашыраючыся, то групуючыся. Многія распавядалі, што студэнтам панаставілі ў суботу па чатыры пары ды папярэдзілі, што за пропуск выганяць з унівэрсытэтаў. Але з тых, хто прыйшоў на плошчу, палову склала менавіта моладзь. Паводле сучасных менскіх рэаліяў гэта азначала тое, што маніфэстацыя зьбярэцца. І сапраўды, у свой шлях выпраўлялася, паводле розных ацэнак, ад 20 да 30 тысячаў чалавек. Нямала народу чакала іхняга прыходу каля Опэрнага тэатру — месца дазволенага мітынгу. Незадоволенае шэсьце тым часам рушыла праз горад. Быў той нячасты, але ўжо не зусім экзатычны момант нашай сучаснай гісторыі, калі ў Менску можна было пабачыць бранятэхніку на баявым заданьні. Антураж, які стварылі ўлады, сапраўды спрацаваў супраць саміх уладаў.

Традыцыямі афіцыёзнага Менску ўжо сталі зачыненыя станцыі мэтрапалітэну, канфлікты сумных міліцыянтаў з абуранымі мінакамі, перакрытыя вуліцы. На праспэкт Машэрава было немагчыма прайсьці. Але некаторыя траплялі туды безь перашкодаў. Калёны аўтобусаў у суправаджэньні BMW зь мігалкамі праносіліся да Палаца спорту — ехалі ня надта перакананыя ў сваіх дзеяньнях удзельнікі афіцыйнай нарады. У той момант я шпацыраваў праз Верхні горад — бачыў калёны міліцыянтаў і аўтобусаў, але мусіў быў спыніцца, зьдзіўлены рэакцыяй мінакоў. Гэтым людзям быў малацікавы мітынг апазыцыі каля Опэры, але калі яны пабачылі транспартыроўку ўдзельнікаў сходу, дык пачалі рагатаць і тыкаць у іх пальцамі. Для тых гэткая рэакцыя была абсалютна нечаканаю, найбольш знэрваваныя пачалі апускаць фіранкі. Хто ж уладарыць у гэтым горадзе — афіцыйная ўлада ці саркастычны натоўп? Апазыцыя, зразумела, не пры ўладзе, але на арыштаваных, якіх канваявалі ў зону, выглядалі менавіта валанцёры рэжыму. Іх і прывезьлі сюды, каб паспрабаваць пашырыць адказнасьць на большую колькасьць людзей, каб зрабіць іх саўдзельнікамі.

Зноў ажыла тапаграфія Менску. Траецкую горку, там, дзе ў першай палове XX ст. узьвялі Опэру, трымалі менчукі з дапамогаю дружынаў, што прыйшлі зь іншых гарадоў. Замак быў ужо зьнішчаны й не належаў нікому. Захопнікі забарыкадаваліся на Ніжнім рынку, а каля Татарскіх агародаў, там, дзе потым зьявіцца Палац спорту, яны стварылі свой галоўны лягер. На абарону гэтага лягеру была кінутая цэлая ваенная махіна. І мы бачылі адборныя аддзелы (што потым назавуць спэцназам), якім удалося замацавацца на Гандлёвай вуліцы ўздоўж Сьвіслачы. Але ўсе яны завязьлі ў вільготнай глебе Ніжняга гораду. Там ім было ўтульней.

Гэта адзін зрэз падзеяў. Калі ж мы перанесемся ў нашу рэальнасьць, дык зразумеем, што існаваў унутраны сцэнар 19 кастрычніка — пра гэта сьведчыць адсутнасьць жорсткіх сутычак пры ўсёй падрыхтоўцы да іх. Лідарам сёньняшняе апазыцыі сутычкі былі непатрэбныя, бо як палітычная мэта фармулявалася неабходнасьць засьведчыць цывілізаванасьць апазыцыі. Маркер цывілізаванасьці гэтым лідарам яшчэ спатрэбіцца. На рэжым жа паўплывала міжнародная рэакцыя, і ён мусіць рабіць патэнцыйна фатальныя для сябе адступленьні. У выніку — перанос даты рэфэрэндуму парушае зададзеную татальнасьць, узьнікаюць варыянты разьвіцьця падзеяў. Зразумела адно — усе газэты зачыняць зараз ня будуць.

**Алег Дзярновіч**




Здымак Анатоля Клешчука

# На Валадарскага скончыўся «курортны сэзон» для ўкраінцаў

Напярэдадні рэфэрэндуму ўсе судовыя працэсы, нейкім чынам зьвязаныя з палітыкай, адкладзеныя на няпэўны час. Падобна, што людзям, у якіх ёсьць ня толькі паўнамоцтвы вырашаць лёс «вязьняў сумленьня», але і проста праца і дзеці, трэба проста ў нечым упэўніцца. Хутчэй за ўсё, у тым, хто ўсё ж выйдзе пераможцам і, адпаведна, будзе дыктаваць законы, паводле якіх давядзецца судзіць іншадумцаў паводле абвінавачаньняў у хуліганстве. І пакуль айчынныя іншадумцы сваіх прысудаў не прычакалі ўвогуле, іх замежныя сябры ў няшчасьці мусяць чакаць перагляду справы ў Вярхоўным Судзе РБ. Гаворка пра сямёх асуджаных на пачатку верасьня грамадзянаў Украіны.

Як стала вядома з дасьведчаных крыніцаў, украінцы па-ранейшаму ўтрымліваюцца ў асобных камэрах, а ўмовы ўтрыманьня дазваляюць ім параўноўваць сваё жыцьцё падчас сьледства з курортам. Нагадаем: тады былі «толькі» насякомыя, перакрываньне паветра, сьпякота ў камэрах, сон «па зьменах» з-за колькасьці вязьняў, удвая большую за зьмястоўнасьць памяшканьня. (Мяркуючы з бачаных на судзе 21 жніўня «адмецінах» на целе некаторых хлопцаў — яшчэ і звычайнае зьбіцьцё). А што цяпер, праз паўтары месяцы пасьля абвяшчэньня прысуду?

Пакуль уладныя структуры РБ вырашаюць пытаньне зь песьні ўкраінскага барда Стаса Трызубага: «Шчо робыты з тымі ўкраінцамі — бандытамі, бандэрамі, злачынцамі?» Да Вярхоўнага Суда матэрыялы справы яшчэ не дайшлі, а МЗС чакае запыту з Украіны наконт перадачы асуджаных на іх радзіму. Тым часам «варта» былога Пішчалаўскага замку не губляе часу. У кожную з камэраў, дзе сядзіць хто-небудзь з украінскіх грамадзянаў, засылаюцца крымінальныя «аўтарытэты»... Вядома, што найбольшай павагай у сукамэрнікаў карыстаецца Андрэй Шаптыцкі, больш-менш нармальныя адносіны зь імі ў Сяргея Патапава і Уладзімера Салаўя, а частка хлопцаў мусіць атрымліваць «узнагароды» у бойках. Карацей, «на вайне, як на вайне». Ня дзіва, што на ганку СІЗО зьведваеш прыкладна такое ж пачуцьцё, пра якое распавядаюць журналісты, што рабілі матэрыялы з Чачэніі.

Самі вязьні таксама не губляюць часу. Паэт і бард Андрэй Шаптыцкі, напрыклад, піша вершы і песьні. Стан здароўя ва ўсіх, мякка кажучы, значна пагоршыўся. Шаптыцкі, не зважаючы на свае хворыя ныркі, лічыць, што «тых шасьцёх трэба адпраўляць дадому, бо за іх вельмі вялікая адказнасьць». Салавей, 53-гадовы астматык, «чарнобылец» і «аўганец», ня бачыць ніякага злачынства супраць Украіны з боку асуджаных і ехаць нікуды ня хоча: «Раз нас палічылі злачынцамі ў Беларусі, чаму адбываць пакараньне патрэбна ня тут?» Нягледзячы на ўсе спробы «зламаць» украінцаў, яны адзначаюць, што ў Беларусі «сядзець» цікавей, тлумачачы гэта так: «Тут мы — нейкая зьява, а што такое ўкраінцы ва Ўкраіне?»

Для паўнаты адказу на пытаньне пра такую зьяву, як «украінцы ў Беларусі», варта дадаць дзьве дэталі. Па-першае, апошнія два тыдні журналісты не маглі датэлефанавацца да ўкраінскага пасольства: пасьля яго пераезду ў іншы будынак чамусьці ніяк не маглі падключыць тэлефоны (супрацоўнікі тэлефанавалі з аўтаматаў на вуліцы). Па-другое, апошняя сустрэча консула Украіны зь яе грамадзянамі (інтарэсы якіх ён павінен бараніць паводле ня толькі пагадненьняў паміж нашымі краінамі, але і міжнародных канвэнцыяў) змагла адбыцца толькі празь пяць дзён пасьля яе забароны адміністрацыяй СІЗО. Для таго, каб сустрэча адбывалася, консулу давялося даслаць у беларускае МЗС ноту пратэсту. Як вядома зь веснавога досьведу зносінаў грамадзянаў з «учреждением УЖ-15/ИЗ-1» і да яго падобнымі, за пяць дзён амаль сыходзяць усялякія там «фінгалы»...

**Тацяна Сьнітко**

"Наша Ніва" незалежны тыднёвік НАША НІВА
заснаваны ў 1906, адноўлены ў 1991
заснавальнік і выдавец Павал Жук
рэдактар Сяргей Дубавец
адказны сакратар Алег Дзярновіч
мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі
навіны Уладзімер Бараніч
рэдактар дадатку "Інфарматар" Андрэй Лапцёнак
макет Віктар Корзун
дызайн і вёрстка Лявон Раманчык
набор Тацяна Чуйвід
стыль і карэктура Паўлюк Канавальчык пры ўдзеле Сяргея Шупы
прадстаўнік рэдакцыі ў Гомелі Зьміцер Бартосік (тэл. 56-94-36)
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ 220123 Менск, а/с 71
Тэл./факс 239-78-49
E-mail: edit@niva.minsk.by
Падпісны індэкс 63125
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам друку Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.



# Музэй беларускага характару

Пошта

У якой зь беларускіх цэркваў падлога пакрытая лінолеўмам? У аўтэнтычнай драўлянай з Клецкага раёну ў Музэі народнай архітэктуры і побыту ў Строчыцах. Дзе могуць пакласьці падлогу з сантымэтровымі шчылінамі між дошкамі, кожную дошку прыбіваючы тузінам цьвікоў? Дзе могуць трымаць унікальныя драўляныя пабудовы з саламянымі стрэхамі без гліняных канькоў? Дзе працуе процьма народу, а ўсё пазарастала бур'яном? У якім яшчэ музэі сустрэнеш п'яных зюзікаў апоўдні?

На жаль, пакуль адзіны менскі музэй, якім шчыра захапляюцца іншаземцы, дабудуюць, першыя экспанаты, напэўна, пасьпеюць струхлець.

Стаяць няпаленымі і недагледжанымі шэдэўры безназоўных геніяў-дойлідаў, запаўняюцца брудам несапраўдныя калодзежы, адцьвітае засеяная наготкамі ніва. Гнюсіцца і разбураецца яшчэ адзін лапік нацыянальнай спадчыны.

**Алесь Бурскі**

# Канфэрэнцыя ў Котбусе




25-28 верасьня 1996 году ў г. Котбусе (Нямеччына) адбылася міжнародная канфэрэнцыя пад назвай «Мадэрнізацыя слоўнікавага складу эўрапейскіх нацыянальных і рэгіянальных меншасьцяў». Арганізатар канфэрэнцыі — Котбускі аддзел Сербалужыцкага інстытуту.

На канфэрэнцыі выступілі навукоўцы многіх краінаў Эўропы. Былі заслуханыя даклады, у якіх ішла гутарка пра пісьмова-кніжныя мовы фрызаў (Нямеччына), фарэрцаў (Данія), ірляндцаў, валійцаў (Вялікабрытанія), аксытанцаў (Францыя), каталёнцаў (Гішпанія), баскаў (Гішпанія), кашубаў (Польшча), градзішчанскіх харватаў (Аўстрыя), русінаў (Славаччына). Закраналіся праблемы нацыянальных меншасьцяў і іхніх моваў, а таксама праблемы іх выжываньня.

У канфэрэнцыі брал актыўны ўдзел гаспадары — супрацоўнікі Сербалужыцкага інстытуту. Як вядома, на ўсходзе Нямеччыны жыве нацыянальная меншасьць — лужычане, або лужыцкія сербы, якія захавалі сваю мову і культуру.

Прысутнічалі на канфэрэнцыі і прадстаўнікі Беларусі. Аўтар гэтых радкоў прачытаў даклад «Вывучэньне лексыкі заходнепалескага дыялектнага арэалу».

**Ф.Клімчук**

# Найважнейшы ўрок гісторыі

## *Статыстыка сталінскіх рэпрэсіяў*

Працяг са старонкі 1.

«Сьледзтвам у справе выкрытай і ліквідаванай контррэвалюцыйнай шпіёнска-дывэрсійнай паўстанцкай арганізацыі «Польскай арганізацыі вайсковай» выяўлена, што ў дзейнасьці паўстанцкай арганізацыі бралі ўдзел...», — такія словы з пастановаў на арышт былі ўпісаныя ў справы многіх тысячаў палякаў і беларусаў, рэпрэсаваных у 1934-38 гады ня толькі на тэрыторыі Беларусі, але і ў Маскве, Пяцігорску, Растове, Новасібірску, Томску, Краснаярску... Практычна ўсіх іх абвінавацілі тады ў арганізаванай змове супраць савецкай улады. Арганізацыйнай формай гэтай змовы, на думку супрацоўнікаў НКВД, была нейкая падпольная контррэвалюцыйная арганізацыя, пад непасрэдным кіраўніцтвам якой і зь яе прамога ўказаньня павінны былі дзейнічаць «ворагі народу» з польскімі і беларускімі прозьвішчамі і імёнамі. І зусім неістотна, што такой арганізацыі ў прыродзе не існавала: яна была «створана» у нэтрах НКВД.

Справа на «Польскую арганізацыю вайсковую» — адна з самых масавых пасьля справаў «Расейскага агульнавайсковага саюзу» і «Союзу выратаваньня Расеі» і яскравы прыклад лінейных арыштаў — арыштаў паводле нацыянальнай прыкметы. Філіі арганізацыі «ствараліся» органамі НКВД у абсалютнай большасьці ня толькі цэнтральных раёнаў СССР, але і ў Заходне-Сібірскім краі, Усходняй Сібіры, на Урале. Тым больш, што цяжкасьцяў гэта не выклікала — там працэнт палякаў і беларусаў (яны ў першую чаргу ўключаліся ў «расстрэльныя сьпісы») быў досыць высокі, сказвалася перасяленьне ў Сібір напрыканцы мінулага і ў пачатку нашага стагодзьдзя.

Прэамбула абвінаваўчага заключэньня заўжды заставалася нязьменнай, мяняліся толькі прозьвішчы ды назвы населеных пунктаў, ды «факты», ды «прыклады» варожай дзейнасьці.

> «Пры допытах высьвятлялі, дзе працаваў да арышту абвінавачаны, чым займаўся, ці былі факты пажараў, атручваньня жывёлы на месцы яго жыхарства і так далей. Высьветліўшы гэтыя пытаньні, штучна прыпісвалі ў паказаньнях абвінавачаных учыненьне тых ці іншых актаў шкодніцкай ці дывэрсійнай дзейнасьці...»
>
> *(З пратаколу допыту ад 27 сакавіка 1957 г. былога супрацоўніка Навасібірскай управы НКВД ураджэнца Менскай губэрні Філіповіча С.)*

У справаў на «Польскую арганізацыю вайсковую» была асаблівасьць, якая адрозьнівала гэтыя справы ад іншых — амаль усе яны былі групавыя. Успомнім хоць бы лёс жыхароў вёскі Беласток Крывашэінскага раёну Заходне-Сібірскага краю, дзе за адну ноч у сьнежні 1937 г. былі арыштаваныя ўсе мужчыны ва ўзросце ад 16 да 70 гадоў... Вярнуліся ўсяго некалькі чалавек.

Магчыма, і ня варта было б казаць пра гэтыя міфычныя цэнтры і камітэты няіснай «Польскай арганізацыі вайсковай», калі б за імі не было рэальных чалавечых лёсаў.

Напрыклад, лёс двараніна Гарадзенскай губэрні Аляксандра Сасенкі, якому вайсковая кар'ера была наканаваная яшчэ да нараджэньня: вайскоўцам быў дзед, бацька на службе ў расейскага цара дайшоў да чыну палкоўніка і, выйшаўшы ў адстаўку, жыў у горадзе Замосьце Люблінскай губэрні.

Да пачатку першай сусьветнай вайны А.Сасенку споўнілася васемнаццаць гадоў. З блаславеньня бацькоў ён паступіў у 99-ы Івангародзкі пяхотны полк і быў накіраваны на фронт. Затым рэвалюцыя, грамадзянская вайна. У пачатку 20-х Аляксандар пачаў служыць у частках польскай арміі, якія разьмяшчалася ў Баранавічах і Берасьці, але раненьні і кантузія ўвесь час нагадвалі пра сябе. Давялося ў 1923 г. дэмабілізавацца. Жонка яго была расейка, і пасьля доўгіх ваганьняў яны вырашылі перабрацца ў Расею, да сваякоў жонкі.

Пры пераходзе мяжы А.Сасенка быў арыштаваны і за нелегальны яе пераход камітэтам ОГПУ быў асуджаны паводле артыкула 66 КК РСФСР на тры гады канцлягераў. Пасьля адбыцьця гэтых трох гадоў на Салаўках у 1927 г. яго адправілі ў высылку ў Нарымскую акругу Заходне-Сібірскага краю. Жыў ён у пасёлку Каргасок, на плытбішчы леспрамгасу ў тайзе, а з 1932 году — у горадзе Калпашава, дзе працаваў мэханікам-матарыстам на электрастанцыі.

> «Як устаноўлена сьледзтвам, «Сібірскі камітэт Польскай арганізацыі вайсковай» атрымаў адпаведнае заданьне ад 2-га аддзелу польскага галоўнага штабу, разгарнуў у Сібіры шырокую вярбовачную працу і прыступіў да арганізацыі паўстанцкіх легіёнаў і да непасрэднай падрыхтоўкі ўзброенага паўстаньня. Членам «Сібірскага камітэту» Сасенкам быў распрацаваны плян узброенага паўстаньня, якім прадугледжвалася наступнае... легіёны пачынаюць выступленьне адначасова ў момант нападу на СССР з бакоў Польшчы, Нямеччыны і Японіі; у момант паўстаньня паўстанцкія атрады легіянэраў павінны разьбіць партыйна-савецкія арганізацыі, раззброіць міліцыю, ахову прадпрыемстваў, партыйна-савецкі актыў, аддаўшы забраную зброю паўстанцкім атрадам...
>
> Разам з актыўнай падрыхтоўкай да ўзброенага паўстаньня ўдзельнікі «ПАВ» на тэрыторыі Нарымскай акругі займаліся шпіёнска-дывэрсійнай дзейнасьцю, сыстэматычна зьбіралі зьвесткі шпіёнскага характару, якія сканцэнтроўваліся ў руках агента польскага галоўнага штабу Сасенкі, і апошнім перадаваліся польскім разьведвальным органам...»
>
> *(З абвінаваўчага заключэньня ад 3 кастрычніка 1937 г. па справе №7138 на Куля Я.К. і іншых.)*

Арыштавалі яго 11 жніўня 1937 г. Пасьля папярэдняга допыту ў Калпашаве адправілі ў Новасібірск. Грунтоўна «апрацаваны» спэцыялістамі сваёй справы А.Сасенка на допыце ў начальніка УНКВД па Захсібкраю маёра дзяржбясьпекі Гарбача прызнаўся ў тым, што ў 1924 г. быў нелегальна перакінуты ў СССР са спэцыяльнымі заданьнямі польскіх разьведорганаў.

У чым толькі не «прызнаўся» Сасенка сваім сьледчым на допытах. Вось толькі подпісы падсьледнага ў пратаколах адсутнічаюць. І ўсё ж, нягледзячы на такі «промах сьледзтва», копіі пратаколаў допытаў Сасенкі былі далучаныя ў якасьці доказаў да справаў соцень і тысяч сібірскіх палякаў і беларусаў, у тым ліку і жыхароў вёскі Беласток.

Пастановай Асобай Нарады НКВД СССР ад 20 кастрычніка 1937 г. Сасенка быў прысуджаны да расстрэлу, і 5 лістапада яго ня стала.

Шмат для аднаўленьня праўды пра лёсы ўраджэнцаў Беларусі зрабіў наш зямляк — сібірскі гісторык Васіль Ханевіч. Яго кніга «Беластоцкая трагедыя» ў сьнежні 1993 г. выйшла ў выдавецтве газэты «Томский вестник». У ёй прыводзяцца ўспаміны ўдзельнікаў і сьведкаў тых трагічных падзеяў, распавядаецца пра лёсы ня толькі рэпрэсаваных ураджэнцаў Гарадзенскай губэрні, але і пра лёсы іх катаў-сьледчых і супрацоўнікаў НКВД.



Канвэер рухаўся спраўна. Калі сканчалася «сыравіна», дастаўлялі новыя партыі. «Ворагаў народу» стварылі штучна. А калі іх колькасьць таяла, пачыналіся так званыя «замаскаваныя» рэпрэсіі. Галоўным чынам яны прыпалі на другую палову 1937 і пачатак 1938 г. На месцах арыштоўваліся і там жа расстрэльваліся ў першую чаргу прадстаўнікі некарэннай нацыянальнасьці і выхадцы зь іншых рэгіёнаў. Так падтрымліваўся міт аб усеагульным распаўсюджваньні варожай дзейнасьці.

З гэтай мэтай абласныя і гарадзкія ўправы НКВД атрымлівалі разнарадку на выяўленьне пэўнай зададзенай колькасьці «ворагаў народу». Рознымі шляхамі, у тым ліку з выкарыстаньнем загадзя назапашаных даносаў і тэрмінова атрыманых патрэбных паказаньняў раней арыштаваных, складаўся сьпіс ужо канкрэтных людзей пад «разнарадку». Затым яны арыштоўваліся.

А пачыналася ўсё звычайна так. Цэнтар даваў разнарадку на выяўленьне акрэсьленай колькасьці «ворагаў народу». На падставе гэтага УНКВД Заходне-Сібірскага краю давала адпаведныя «заданьні» па раёнах і чакала на чарговы месяц ці квартал новых «канкрэтных» лічбаў. Напрыклад, Томскі гараддзел НКВД штомесяц атрымліваў кантрольныя лічбы на 3-5 тысяч чалавек. Зь іх ня менш за 60 працэнтаў меркавалася засудзіць па першай катэгорыі, г.зн. да расстрэлу.

> «Партыя і ўрад падоўжылі тэрмін працы «троек» да 1 студзеня 1938 году. За два-тры дні, што засталіся да выбараў у Вярхоўны Савет, вы павінны правесьці падрыхтоўку да апэрацыі, а 13 сьнежня — пасьля выбараў у Вярхоўны Савет, пачаць «нарыхтоўку». Даю вам тры дні на «нарыхтоўку», а затым вы павінны «націснуць» і хутка закончыць «справы»...
>
> Узроставым складам арыштаваных я вас не абмяжоўваю — давайце старых. Нам патрэбна «націснуць», бо нашыя ўральскія суседзі нас моцна «падціскаюць». Па РОВСу вы павінны даць да 1.01.38 г. ня менш за 1100 чалавек, па паляках, латышах і інш. ня менш за 600 чалавек у дзень, але ў агульнай колькасьці, я ўпэўнены, што за гэтыя дні вы «дагоніце» да 2000 чалавек. Кожны, хто вядзе сьледзтва, павінен заканчваць ня менш за 7-10 справаў у дзень — гэта няшмат, бо ў нас шафёры ў Сталінску і Новасібірску «даюць» па 12-15 справаў у дзень... Улічыце, што шэраг гараддзелаў — Кемераўскі, Пракоп'еўскі і Сталінскі — вас могуць апярэдзіць. Яны ўзялі на сябе абавязкі вышэйшыя, чым я вам цяпер прапанаваў...»
>
> *(З прамовы 10 сьнежня 1937 г. начальніка УНКВД Заходне-Сібірскага краю І.Мальцава на нарадзе опэрсаставу ў г. Новасібірску)*

Існавалі нават спэцыяльныя бланкі справаздачнасьці. Даходзіла да таго, што ў агульную колькасьць азначаных у разнарадцы асобаў, якіх неабходна было арыштаваць, адразу ўключалася ўжо і колькасьць тых, хто павінен быць расстраляны.

Перавыконваць «норму» дазвалялася, але за недавыкананьне ішло сустрэчнае пакараньне — аж да вышэйшай меры «сацыяльнай абароны». Таму шырока бытавала практыка, калі арыштаваных тут жа ў «прыдатным» месцы — лесе, лагчыне, на могілках — расстрэльвалі, а потым, задняй датай афармлялі справы з патрэбнымі паказаньнямі.

> «У жніўні 1937 году начальнік Томскага гараддзелу НКВД І.Аўчыньнікаў выклікаў мяне да сябе ў кабінэт і папытаўся, колькі справаў я і мае сьледчыя закончылі і на колькі чалавек. Я адказаў, што пакуль яшчэ ніводнай справы ня скончана, таму што ўмовы для сьледчай працы ня створаныя, дый часу яшчэ недастаткова (прайшло 7-10 дзён).
>
> Аўчыньнікаў даў мне тэрмін у 5 дзён і папярэдзіў, каб на працягу гэтага тэрміну ад нас паступіў шэраг справаў. На працягу 5 сутак адзін ці два сьледчыя атрымалі патрэбныя паказаньні, здаецца, двух абвінавачаных пра іх антысавецкую дзейнасьць. Але цалкам скончыць зноў жа ніводнай справы не ўдалося. Пра што я і паведаміў Аўчыньнікаву.
>
> Выслухаўшы мяне, Аўчыньнікаў вылаяўся нецэнзурна, назваў мяне апартуністам і паабяцаў расправіцца са мной, калі я буду працягваць сабатаваць мерапрыемствы партыі і ўраду. Тады ён заявіў мне прыкладна так: «У нас у гараддзеле адзін сьледчы дае па 10 справаў у суткі, а ад цябе і тваіх сьледчых на працягу 10 дзён не паступіла ніводнай справы. Колькі ж гадоў спатрэбіцца табе, каб скончыць сьледзтва па справах усіх арыштаваных пры такіх вашых тэмпах? Калі так будзеш працягваць і надалей, дык я пастаўлю пра цябе пытаньне перад начальнікам УНКВД...»
>
> *(З паказаньняў былога начальніка Кажэўнікаўскага райаддзелу НКВД Л.Салтымакава 24 верасьня 1956 г./*

Для актывізацыі «работы» паміж гарадзкімі і раённымі аддзяленьнямі НКВД было разгорнута «спаборніцтва» паводле прынцыпу: хто болей арыштуе «ворагаў народу» ў пазначаных катэгорыях. Па выніках 1937 г. сярод гараддзелаў НКВД Заходне-Сібірскага краю пераможцам стаў Томск, за што начальнік гараддзелу капітан дзяржбясьпекі І.Аўчыньнікаў быў прадстаўлены да ўзнагароды ордэнам Леніна.

Зь лістапада 1939 г. у Сібір пацягнуліся эшалёны дэпартаваных жыхароў заходніх абласьцей Беларусі. У гэтай плыні аказалася больш за 60 тысяч беларусаў, палякаў, габраяў... З улікам колькасьці грамадзян, рэпрэсаваных несудовымі і судовымі органамі, у адміністратыўным парадку гэтая лічба перавышае 85 тыс. чалавек. Вывучэньне архіўных дакумэнтаў і матэрыялаў органаў дзяржбясьпекі, МВД, судоў і пракуратуры Расейскай Фэдэрацыі дазваляе зрабіць папярэднюю выснову, што на тэрыторыі Заходне-Сібірскага краю (цяпер Новасібірская, Кемераўская і Томская вобласьці) у пэрыяд 30-40-х гадоў толькі судовымі органамі было рэпрэсавана ня менш за 25-30 тысячаў ураджэнцаў Беларусі. Галоўны ўдар рэпрэсіўнай машыны быў скіраваны супраць сялян і рабочых (да 64%); асноўнымі матывамі арышту (да 90%) былі «контррэвалюцыйныя злачынствы»; да 70% грамадзян было асуджана ў 1937-38 гады, каля 80% усіх асуджаных было расстраляна, а найменшае пакараньне — пяць гадоў — атрымала ня больш за 2 працэнты.

Такім чынам, пэўная статыстыка ўсё ж існуе. Але, мяркуецца, агульная лічба жыхароў Беларусі, якіх рэпрэсавалі ў 20-40-я гады будзе далёка няпоўная, калі не ўлічыць тых, хто трапіў у пашчу таталітарнага Малоху на тэрыторыі іншых рэспублік былога СССР, хто паўторна быў рэпрэсаваны ў лягерах і турмах ГУЛАГу НКВД СССР, хто быў высланы і зьнішчаны па разнарадцы, ня трапіўшы нават ні ў якія сьпісы.

Нельга пагадзіцца з такім падыходам, калі пры азначэньні агульных стратаў рэпрэсіўнай палітыкі на тэрыторыі Беларусі, як і іншых дзяржаваў, бяруцца за аснову толькі зьвесткі органаў дзяржбясьпекі і ўнутраных справаў. Бо афіцыйная статыстыка зыходзіць з таго, што вызначае колькасьць рэпрэсаваных наяўнасьцю архіўна-сьледчых справаў на захаваньні ў архівах дзяржбясьпекі. А як быць зь дзясяткамі тысячаў тых, якіх расстралялі, выслалі, паўторна рэпрэсавалі без усялякіх «фармальнасьцяў»? Чаму не бярэцца ў разьлік тая частка архіўна-сьледчых справаў НКВД, сьледчых матэрыялаў пракуратур, судоў, вайсковай котрразьведкі, сьпісы рэпрэсаваных у адміністратыўным парадку, якія былі зьнішчаны ці захоплены падчас імгненнага наступу нямецка-фашысцкіх войскаў у чэрвені-ліпені 1941 году? Чаму сёньня адбываецца падзел на «нашых», рэпрэсаваных на тэрыторыі Беларусі, і «ня нашых», косткі якіх ляжаць у Сібіры, на Ўрале, Поўначы і ў іншых рэгіёнах?

Найважнейшы ўрок гісторыі: да праўды мы павінны ісьці да канца. Паўмерамі цяпер нічога не даб'ешся, бо толькі поўная праўда зьяўляецца гарантыяй ад рэстаўрацыі крывавага таталітарызму.

*Томск-Менск*

**Ігар Кузьняцоў**

# СЬВЕТ ЗА ТЫДЗЕНЬ

## ПАНЯДЗЕЛАК, 14 КАСТРЫЧНІКА:

**ТАЛІБЫ.** ***(Аўганістан).*** Войскі Ахмад Шах Масуда адкінулі талібаў ад Пандшэрскай даліны і перавала Саланг. Баі ідуць каля ваеннай базы Баграм у 10 кілямэтрах ад Кабулу. Ахмад Шах Масуд, Рашыд Дустум і Бурханудзін Рабані сустрэліся на перавале Саланг.

**ПАКІСТАН**. Прэм'ер-міністар Пакістана Бэназыр Бхута прызналася, што аддзелы талібаў рыхтаваліся на тэрыторыі Пакістану пры ўдзеле Савудаўскай Арабіі, Вялікабрытаніі і ЗША.

**"АПОСТАЛ".** ***(Расея).*** Маскоўская міліцыя вярнула Дзяржаўнай Гістарычнай Бібліятэцы скрадзенага на прыканцы верасьня "Апостала", выдадзенага Іванам Фёдаравым у 1564 годзе. Было вернута таксама яшчэ 197 скрадзеных кніг.

**СУД.** ***(Бэльгія).*** Бэльгійскі вышэйшы суд адхіліў сьледчага Жана-Марка Канэрота ад вядзеньня справы Марка Дзютру, які падазраецца ў пэдафіліі і катаваньні дзяцей.

**СУСТРЭЧЫ.** ***(Эгіпет).*** Прэзыдэнт Ізраіля Вэйцман сустрэўся з прэзыдэнтам Эгіпту Хосьні Мубаракам. Гэта яшчэ адна спроба ўратаваць мір у рэгіёне.

**ВАЙНА.** ***(Ірак).*** Войскі Патрыятычнай уніі Курдыстану Джалала Талабана пасьля цяжкіх баёў выбілі аддзелы праіракай Дэмакратычнай партыі Курдыстану з гарадоў Куй - Санджак і Дэгалі на поўначы і Галабжы на поўдзені краю. Тым самым яны адбілі значныя тэрыторыі, захопленыя месяц таму войскамі Масуда Бажана.

## АЎТОРАК, 15 КАСТРЫЧНІКА:

**ВІЗЫТ.** ***(Палестына).*** Кароль Ярданіі Хусэйн наведаў Заходні бераг ракі Ярдан, дзе сустрэўся зь Ясірам Арафатам.



**ВАЙНА.** ***(Ірак).*** Пасьля цяжкіх баёў аддзелы Патрыятычнай уніі Курдыстану падыйшлі да сталіцы краю — Ірбілу. Горад ахоўваецца іракскімі войскамі.

**ДЭМАНТАЖ.** ***(Атол Муруроа).*** Францыя пачала дэмантаж ядзернага палігону на атоле Муруроа, пасьля скончэньня сваіх выпрабаваньняў. Дэмантаж плянуецца завяршыць да канца 1998 году.

**ПАПА.** ***(Ватыкан).*** Папа рымскі Ян Павал II пакінуў шпіталь, у якім праходзіла ягоная апэрацыя на апэндыцыт.



**ПРАТЭСТ.** ***(Беларусь).*** Каля 25-ці беларускіх партыяў і арганізацыяў выказаліся супраць правядзеньня "прэзыдэнцкага" рэфэрэндуму 7 лістапада. Ідэя Ўсебеларускага Народнага Сходу ахарактарызаваная ў заяве як спроба дзяржаўнага перавароту.

**ТЭРАКТ.** ***(Альжыр).*** Мусульманскія фундамэнталісты забілі 43-гадовага рэдактара газэты "Эзурук". З 1992 году ў Альжыры загінула каля 50 тысячаў чалавек.

**ДЫСЫДЭНТ.** ***(Кітай).*** Буйнейшы кітайскі дысыдэнт Ванг Дам, які быў адным з кіраўнікоў выступу на плошчы Цяньаньмэнь прадстане перад судом. Пра гэта заявіў замежным журналістам ягоны бацька.

## СЕРАДА, 16 КАСТРЫЧНІКА:

**ПРЫЕЗД.** ***(Расея).*** Прэзыдэнт Беларусі А.Лукашэнка сустрэўся ў Маскве прэзыдэнтам Расеі Б.Ельцыным, патрыярхам Алексіем II і прэм'ер-міністрам В.Чарнамырдзіным. Паводле словаў Лукашэнкі, у яго скляліся "цудоўныя адносіны" як з Ельцыным, так і з Алексіем II, і з Чарнамырдзіным.



**NATO.** ***(Бэльгія).*** Штаб-кватэру NATO наведаў прэзыдэнт Літвы Альгірдас Бразаўскас. Пасьля сустрэчы з генэральным сакратаром Хаўерам Саланам ён заявіў, што Літва мусіць уступіць у паўночнаатлянтычны альянс адной зь першых.

**КАТАСТРОФА.** ***(Балтыка).*** Швэдзкі самалётразьведнік "Віген" упаў у Балтыцкае мора пры аблёце новага расейскага атамнага крэйсэра "Пётар Вялікі". Цела загінулага капітана Ёрана Карласана знайшлі маракі крэйсэра.

**ПАДЗЕЛ.** ***(Расея).*** Дзяржаўная Дума Расеі прыняла заяву, у якой гаворыцца пра недапушчальнасьць падзелу Чарнаморскага флёту.

**АРЫШТЫ.** ***(Беларусь).*** Шахцёры Салігорска, якія выйшлі маршам на Менск у падтрымку Кангрэса ў абарону дэмакратыі, былі затрыманыя супрацоўнікамі міліцыі.

**ПАСАДА.** ***(Ічкерыя).*** Аслан Масхадаў вылучаны на пасаду прэм'ер-міністра Ічкерыі. Разам з тым ён захоўвае і пасаду міністра абароны.

**ПЕРАВАРОТ.** ***(Расея).*** Міністар унутраных справаў Расеі Кулікоў абвінаваціў Аляксандра Лебедзя ў спробе дзяржаўнага перавароту. У прыватнасьці, у стварэньні ўласнай сілавой структуры пад назовам "Рускі Легіён".



**ВЯРТАНЬНЕ.** ***(Францыя).*** Рада Эўропы прыняла пастанову ў якой заявіла аб тым, што Харватыя застанецца ў складзе арганізацыі.

**ТРАГЕДЫЯ.** ***(Гватэмала).*** Прынамсі 83 чалавекі загінула і каля 500 паранена у выніку перапоўненасьці стадыёна "Матэа флорэс" у сталіцы Гватэмалы. Катастрофа адбылася пад час футбольнай гульні паміж зборнымі Гватэмалы і Коста-Рыкі ў адборачным турніры да чэмпіянату сьвету 98г.

## ЧАЦЬВЕР, 17 КАСТРЫЧНІКА:

**АДСТАЎКА.** ***(Расея).*** Барыс Ельцын падпісаў загад аб вызваленьні Аляксандра Лебедзя з пасадаў Сакратара Рады бясьпекі Расеі і паўнамоцнага прадстаўніка прэзыдэнта Расеі ў Чачэніі.

**АКЦЫЯ.** ***(Беларусь).*** У Менску, на пляцы Свабоды, адбылася акцыя Фэдэрацыі Прафсаюзаў Беларусі ў падтрымку Кангрэса ў абарону Канстытуцыі.



**СЬМЕРЦЬ.** ***(Беларусь).*** На сходзе Саюза Пісьменьнікаў Беларусі пры абмеркаваньні праекту зьліцьця калектываў газэтаў "Культура", "Наша Слова" і часопіса "Спадчына" ад сардэчнай нястачы памёр пісьменьнік Аляксандар Капусьцін. Сход выступіў супраць плянаў зьліцьця рэдакцыяў.

## ПЯТНІЦА, 18 КАСТРЫЧНІКА:

**КАНГРЭС.** ***(Беларусь).*** У Менску правеведзены Кангрэс у абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры. На Кангрэсе была створаная грамадзкая камісія па расьледваньні злачынстваў рэжыму на чале зь Юрыем Захаранкам.

**ЗБРОЯ.** ***(Украіна).*** Украінскі парлямэнт прыняў пастанову аб прыпыненьні дзейнасьці Дамовы пра нераспаўсюджаньне ядзернай зброі на тэрыторыі Украіны. Гэта адказ украінскіх парлямэнтараў на заяву Дзяржаўнай Думы Расеі пра непадзел Чарнаморскага флёту.

**ВАЙНА.** ***(Аўганістан).*** Войскі Ахмад Шах Масуда пры падтрымцы тэхнікі Рашыда Дустума ўзялі авіябазу Баграм.

**ТРАНСПАРТ.** ***(Балканы).*** У былой Югаславіі ўпершыню з пачатку вайны пачала працаваць аўтобусная лінія Бялград — Сараева.

**ПАДТРЫМКА.** ***(Расея).*** Дзяржаўная Дума Расеі падтрымала зьняцьцё з пасады Сакратара Рады бясьпекі Аляксандра Лебедзя.

**ПРЫЗНАНЬНЕ.** ***(Японія).*** Сёку Асахара, заснавальнік сэкты "Аум Сэнрыкё", пад час чарговага допыту заявіў, што бярэ ўсю адказнасьць за зарынавую атаку ў такійскім мэтро на сябе. На прызнаньне, зь яго словаў, яго падштурхнуў Усявышні.



## СУБОТА, 19 КАСТРЫЧНІКА:

**МІТЫНГ.** ***(Беларусь).*** У Менску адбыўся мітынг супраць прэзыдэнцкага рэфэрэндуму 7 лістапада. Па розных ацэнках у ім прыняло удзел каля 30 тысячаў дэманстрантаў. Увечары улады правялі арышты. Сярод затрыманых грамадзяне Францыі і Расеі.



**ЗАЯВА.** ***(Беларусь).*** Прэзідэнт Беларусі Лукашэнка заявіў на Ўсебеларускім Народным Сходзе што ён згодны на перанос рэфэрэндуму на 24 лістапада. Таксама ён заявіў, што хаця і парушаў законы, але рабіў гэта на карысьць народа. Апрача таго, ён сьцьвердзіў, што менавіта ён зьяўляецца першым абаронцам народу ("не прафсаюзы, не Вярхоўны Савет, а я").

**ТЭЛЕБАЧАНЬНЕ.** ***(Беларусь).*** У Беларусі было спыненае вяшчаньне Расейскіх каналаў ОРТ і РТР. Замест іх дзяржаўнае тэлебачаньне трансьлявала прамову прэзыдэнта на Ўсебеларускім Народным Сходзе.

**ПРЫЗНАЧЭНЬНЕ.** ***(Расея).*** Замест Аляксандра Лебедзя на пасаду Сакратара Рады Бясьпекі і паўнамоцнага прадстаўніка прэзыдэнта ў Ічкерыі прызначаны быў сьпікер Дзяржаўнай Думы Расеі Іван Рыбкін.

**ВІЗЫТ.** ***(Узбэкістан).*** Прэзыдэнт Пакістана Фарух Лігары прыбыў з афіцыйным візытам у Ташкент. На сустрэчы з Ісламам Карымавым абмяркоўвалася сытуацыя ў Аўганістане. Мяркуецца прыезд на сустрэчу Рашыда Дустума.

## НЯДЗЕЛЯ, 20 КАСТРЫЧНІКА:

**СХОД.** ***(Беларусь).*** У Менску завяршыўся Ўсебеларускі Народны сход. Рэзалюцыя сходу пра падтрымку прэзыдэнта была прынятая амаль аднагалосна. Але на прапанову з прэзыдыюма нязгодным узьняцца, ніхто не адклікнуўся.

**САТАНІЗМ.** ***(Беларусь).*** У Заслаўі сатаністы спалілі праваслаўную царкву (былы кальвінскі збор 16 ст.). Вандалы пакінулі на мурах надпіс: "сьмерць хрысьціянам".

**ВЫБАРЫ.** ***(Літва).*** Выбары ў парлямэнт рэспублікі паводле прагнозаў мусяць скончыцца паразай партыі прэзыдэнта Бразаўскаса і перамогай кансэрватараў на чале з Ландсбэргісам. Тлумачыцца гэта расчараваньнем людзей чатырохгадовым кіраваньнем левых.

**ВЫБАРЫ.** ***(Нікарагуа).*** На пост прэзыдэнта Нікарагуа прэтэндуюць два асноўныя кандыдаты - лідар сандыністаў Артэга і лібэрал Алеман.

**ВЫБАРЫ.** ***(Японія).*** На парлямэнцкіх выбарах паводле прагнозаў правячая лібэральна-дэмакратычная партыя на чале з прэм'ер-міністрам Хасімота ня здолее перамагчы і ёй прыйдзецца шукаць хаўрусьнікаў для стварэньня кааліцыйнага ўраду.

**ВЫБАРЫ.** ***(Эстонія).*** У Эстоніі праходзяць выбары ў мясцовыя органы самакіраваньня.

**ПРАТЭСТ.** ***(Бэльгія).*** Стотысячная дэманстрацыя прайшла ў сталіцы Бэльгіі Брусэлі. Яна зьявілася адказам на рашэньне Вышэйшага Суда Бэльгіі аб адхіленьні сьледчага Жана-Марка Канэрота, які вёў справу Марка Дзютру. Той абвінавачаны ў пэдафіліі, зьдзеку і забойствах маленькіх дзяўчат.

Інфарматар Наша Ніва
№29 21.10 - 27.10 1996 беларускі кампутар 7

# Кампутарныя энцыкляпэдыі



Знаёмая, напэўна, ледзь ня кожнаму навукоўцу, настаўніку ці студэнту выява: завалены кнігамі ды паперамі стол, ліхаманкавае гартаньне старонак у пошуках тэрміна, прозьвішча, даты... Нечага заўсёды не хапае і трэба даставаць новыя кніжкі, цягнуцца ў бібліятэку, дзе тымі даведнікамі застаўленыя цэлыя лябірынты, нешта замаўляць, губляць гадзіны і дні. А ў выніку — ізноў чагосьці не стае, няма партрэта ці схемы, і трэба йзноў шукаць, гартаць, пераглядаць... Вось каб, скажам, ЭЛіМБел ці нават усю Брытаніку можна было заўсёды ня толькі мець на рабочым стале, а, напрыклад, і цягаць за




сабою на ўсялякі выпадак ў кішэні марынаркі...

Яшчэ некалькі гадоў таму словы "мультымэдыя", "гіпэртэкст", CD-ROM гучалі як загадкавыя магічныя замовы. Сёньня тэхніка для ўжываньня так званых аптычных дыскаў уваходзіць у звычайны стандартны мінімум — безь яе цяжка ўявіць сабе сучасны кампутар. Найдаўней знаёмыя такія дыскі аматарам музыкі, але звычайны музычны "кампакт" утрымлівае ў сабе толькі каля гадзіны музыкі. Падобны CD-ROM-дыск, але ў кампутарным фармаце, нясе каля 650 мэгабайт інфармацыі, прычым практычна любой: тэкстаў, малюнкаў, музычных запісаў, відэакліпаў, —гэта ўсё, па-сутнасьці, і ёсьць "мульты—мэдыя", што значыць, "шматкрынічная" інфармацыя.

Пакуль асноўныя спажыўцы CD-ROMаў у нас —прафэсіяналы-кампутаршчыкі (на адным такім дыску можна мець сотні карысных праграмаў) ды апантаныя аматары гульняў (самыя складаныя пэрыпэтыі, самыя ўразныя "жывыя" анімацыі даступныя цяпер толькі праз аптычныя дыскі. Але, магчыма, найбольш цікавы і карысны спосаб ужываньня CD-ROMаў — гэта менавіта захоўваньне, арганізацыя і прэзэнтацыя вялікіх аб'ёмаў featuresнай інфармацыі: ад самай звычайнай, накшталт кухарскіх парадаў, да высокаспэцыяльнай, прафэсійнай. Прасьцей кажучы — стварэньне даведнікаў, слоўнікаў, энцыкляпэдыяў, атлясаў, альбомаў...

Кампутарная энцыкляпэдыя — гэта ня проста набор артыкулаў з дваццаці-трыццаці тамоў звычайнай энцыкляпэдыі, раскладзеных у альфабэтным парадку і запісаных на аптычны дыск. Гэта эфэктыўная сыстэма пошуку практычна любой неабходнай інфармацыі, заснаваная на прынцыпе гіпэртэксту. Сыстэма спасылак (часьцей за ўсё патрэбнае слова пазначана колерам) прыводзіць нас да іншых артыкулаў, імёнаў, назваў, кожная зь якіх таксама выводзіць на новы ўзровень тэксту. Карыстаньне такой сыстэмай можа быць амаль бясконцай захапляльнаю прыгодай у сьвеце ведаў.

Напрыклад, ад тэксту пра кампазытара Баха можна накіравацца ў артыкулы пра пабудову арганаў альбо пра мастацтва барока, праз барока выйсьці на Рубэнса ці Рэмбранта, ад Рэмбранта, скажам, — да тэхналёгіі алейнага жывапісу, адтуль — да вытворчасьці расьліннага алею, далей — у гісторыю гандлёвых шляхоў, потым — да вялікіх геаграфічных адкрыцьцяў, ад іх — у эпоху адраджэньня, затым — да гісторыі мастацтваў і музыкі і, нарэшце, ізноў вярнуцца да Баха. Але пры неабходнасьці можна і хутка, літаральна за некалькі сэкундаў "выхапіць" неабходны разьдзел, не губляючы часу на гартаньне дзясяткаў тамоў і соцень старонак. Прычым большасьць артыкулаў звычайна дапоўненыя ілюстрацыямі. Пры жаданьні можна праслухаць некалькі ўрыўкаў з твораў таго самага Баха, ці нават паглядзець у відэафармаце, як амэрыканскія астранаўты высаджваюцца на Месяцы, ці як Мікіта Хрушчоў махае чаравікам у залі ААН.



Часьцей за ўсё тэксты ды іншую інфармацыю з кампутарных энцыкляпэдыяў няцяжка перанесьці ў свае файлы ды выкарыстаць у працы. "Сярэдняя" энцыкляпэдыя мае да некалькіх дзясяткаў тысячаў артыкулаў, тысячы малюнкаў і фотаздымкаў, па некалькі гадзінаў гуказапісаў, дзясяткі (пакуль даволі кароткіх) відэакліпаў. У большасьць энцыкляпэдыяў "укладзены" геаграфічныя ды гістарычныя мапы. Амаль у кожнай ёсьць свае арыгінальныя "прыдумкі" — напрыклад, гукавыя лінгвістычныя даведнікі альбо магчымасьць ствараць уласныя слайдфільмы. Ды й самі энцыкляпэдыі бываюць розныя: ёсьць "агульныя" — усё пра усё; ёсьць дзіцячыя, гістарычныя, мастацкія, энцыкляпэдыі палітыкаў або дыназаўраў, футболу або катоў, зброі, аўтамабіляў, сэксу. Асобным разгалінаваным жанрам зьяўляюцца электронныя геаграфічныя атлясы, дзе можна пазнаёміцца з мапамі краінаў і плянамі местаў, даведацца пра іхнюю сымболіку, гісторыю, эканоміку. Убачыць краявіды і выдатныя помнікі. Дарэчы, ва ўсіх такіх атлясах, што мне давялося перагл



лядаць, я яшчэ ні разу не сустракаў лукашэнскі візуальны тэст на псыхічную непаўнавартасьць — усюды зьзяе бел-чырвона-белы колер.

Набыцьцё кампутараў з мультымэдыйным абсталяваньнем, нягледзячы на адносна высокую пакуль цану, ужо становіцца фінансава апраўданым. Гэта эканомія ня толькі месца й часу —самыя кнігі цяпер каштуюць як кампакт-дыскі, а многія тамы сучасных энцыкляпэдыяў пацягнуць ужо на дзясяткі, а то й на сотні даляраў. У нашай жа беларускай сытуацыі, пры татальным наступе рэжыму на свабоду інфармацыі, CD-ROMы, як і сусьветная сетка Інтэрнэт, набываюць адмысловы сэнс, застаючыся "вокнамі волі".

Вядома, па-сапраўднаму пазнаёміцца з электроннай энцыкляпэдыяй магчыма толькі праз кампутар. Але нават і ўладальнікам адпаведай тэхнікі не заўсёды вядома, што існуе на рынку, што вартае ўвагі, што можа стаць незаменным памочнікам, а што —ня болей чым прыгожая забава. "Наша Ніва" паспрабуе час ад часу знаёміць свайго чытача зь цікавосткамі і навінкамі інфармацыйных кампакт-дыскаў. Адразу ж трэба заўважыць, што так званага цывілізаванага рынку такой прадукцыі ў нас амаль няма і большасьць дыскаў трапляе ў Беларусь у "пірацкіх" варыянтах. Гэта, вядома, асобная праблема, але піраты сёньня, на жаль, не гарантуючы выдатнай якасьці, часам даюць нам магчымасьць набыць за 5-10 даляраў тое, што на самой справе можа каштаваць у дзясяткі разоў болей. Пры сярэднім заробку беларуса гэта, бадай, адзіны шанец далучыцца да сусьвету кампутарных энцыкляпэдыяў. Пры ўмове, вядома, што вы больш менш разумееце хаця б ангельскую мову, — беларускія энцыкляпэдыі застаюцца нязьдзейсьненай марай (ці актуальнай задачай?), і нават неблагое веданьне расейшчыны ня выратуе вас у гэтай сытуацыі — расейскамоўны прадукт таксама на рынку рэдкасьць.

**Вацлаў Арэшка**

# Гісторыя Сьвету на CD-ROM



**Oksfordzka Encyklopedia Historii Świata. Od prehistorii do 1800 r. PROmedia CD. 1996.**

Зусім нядаўна на польскім рынку зьявілася ліцэнзійная вэрсія англамоўнай Оксфардзкай Энцыкляпэдыі Сусьветнае Гісторыі ў польскім варыянце. Гістарычныя электронныя даведнікі ўвогуле даволі рэдкі ў нас прадукт, а польскі асабліва цікавы тым, што зразумелы для большасьці зацікаўленых гісторыяй жыхароў Беларусі ды больш-менш даступны (праз кантакты з Польшчаю). Такім чынам, перад намі першы том — ад дагістарычнага пэрыяду да 1800 году. Другі, абяцаны неўзабаве, ахопіць час ад 1800 — да сучаснасьці.

Станоўчы бок энцыкляпэдыі — гэта простае карыстаньне. Аўтары прапануюць даволі ўдалы інтэрфэйс, які складаецца са звычайнага мэню, адпаведных іконак і так званых "Тэматычных старонак", якіх мы маем тры: "Энцыкляпэдыя", "Дынастыі сьвету" і дапаўненьне польскіх выдаўцоў — "Пералік польскіх каралёў", у які ўваходзяць, пачынаючы зь Ягайлы, і літоўскія вялікія князі. Вядома, адразу прываблены апошняй старонкай, я, прызнаюся, быў крыху расчараваны — біяграфічныя даведкі даволі сьціплыя, амаль няма генэалягічных зьвестак. Затое можна знайсьці каляровыя партрэты большасьці манархаў. "Дынастыі сьвету", увогуле, — гэта табліцы зь мінімальнай інфармацыяй.

Найцікавейшая старонка, зразумела, самая Энцыкляпэдыя. Экран з гэтай старонкай дзеліцца на некалькі частак: тэкставая панэль — з асноўным тэкстам артыкулаў, панэль ілюстрацыяў ды панэль індэксаў, дзе можна набраць ці адшукаць з агульнага сьпісу неабходнае слова. Невялікая выява зямной кулі ўказвае геаграфічны локус. Пошук тэрмінаў адбываецца вельмі проста: на панэлі індэксаў у полі "Пошук слова" трэба набраць тэрмін ці імя, што зацікавіла Вас, і, націснуўшы курсорам мышы на клавішу "Шукай", пачакаць пару сэкундаў, пакуль слова не аб'явіцца на полі "Знойдзеныя словы". Затым націснуць на "Пакажы" і знаёміцца з артыкулам у тэкставым полі. Калі вы ня ведаеце, чаго вам хочацца, можна прагартаць усе 2500 артыкулаў энцыкляпэдыі. У артыкуле, які вас зацікавіў, можна пабачыць, калі яна ёсьць, адну з 700 ілюстрацыяў, паслухаць музычны запіс (агульная колькасьць — 90 хвілінаў гучаньня), прагледзець адзін з 25 відэакліпаў (такіх, як "Вэрсаль", "Дракула", "Маўры"...) ці пазнаёміцца з адной з 47-мі інтэрактыўных мапаў. На мапах, націснуўшы на выдзеленыя кропкі, можна раскрыць дадатковы артыкул альбо ілюстрацыю. У самім тэксьце выдзеленыя словы адсылаюць Вас да асобных артыкулаў у невялікай панэлі спасылак.

У прынцыпе, каб разабрацца ў тым, як карыстацца энцыкляпэдыяй, нават ня надта дасьведчанаму ў кампутары чалавеку дастаткова некалькіх хвілінаў. Для больш прафэсійных карыстальнікаў ёсьць і дадатковыя выгоды, напрыклад, панэль "Фільтры", на якой можна выбраць патрэбную табе тэму, абмежаваўшы колькасьць артыкулаў для прагляду, ці панэль пошукаў, якая дапаможа знайсьці ўсе згадкі пра той ці іншы тэрмін, прозьвішча ці назву. Пры неабходнасьці тэкст ці мэдыя-файл можна перанесьці з энцыкляпэдыі ў свой уласны дакумэнт.

Слабым бокам Оксфардзкай энцыкляпэдыі можна палічыць адносна невялікі аб'ём мэдыя-файлаў, ня надта моцны ўзровень гіпэртэксту. Па-сутнасьці, гэта ня столькі навуковая, колькі сямейная, аматарская энцыкляпэдыя, якая нясе веды хутчэй для "проста зацікаўленых", чым для тых, хто сур'ёзна вывучае сусьветную гісторыю.

"Цікава, як мы самі ўспрымаемся ў кантэксьце гэткай англа-амэрыканскай хатняй агульна-сусьветнай гісторыі", —зусім натуральна падумаў я. І ў каторы раз адчуў квасны прысмак агіды, матляючыся па артыкулах "Оксфарда". Бо — аніяк! Ёсьць артыкулы Польшча, Расея, Украіна, Інфлянты... Ёсьць Ян Сабескі, Ягелоны, Станіслаў Аўгуст Панятоўскі... Няма ні Беларусі, ні Вялікага Княства Літоўскага, ні хаця б проста Літвы, хоць апошняя згадваецца некалькі разоў і нават у "Дынастыях сьвету" ёсьць пералік "літоўскіх князёў" да Жыгімонта Старога. Не са злосьці — проста забылі. Сапраўды, чаго ж ім за нас помніць?! Але ня толькі Беларусі не хапае у гэтай энцыкляпэдыі, вельмі сьціпла падаецца і большасьць тэмаў па-за межамі Эўропы ці Паўночнай Амэрыкі, адсутнічаюць артыкулы, прысьвечаныя мэтадалёгіі, структуры гістарычных ведаў. Не перашкодзіла б і звычайная ў вялікіх кампутарных энцыкляпэдыях "Time Line" — "страла часу" з паказам храналёгіі сусьветных падзеяў. Але што ёсьць — тое і ёсьць. І гэтак Оксфардзкая Энцыкляпэдыя Сусьветнае Гісторыі будзе неблагім дапаможнікам для студэнта, а асабліва настаўніка ці выкладчыка, карыснаю для сямейнае навукі зь дзецьмі. Дарэчы, — і натхняльным прыкладам для нашых энтузіястаў электронных даведнікаў...

Той, хто захоча набыць Оксфардзкую Энцыкляпэдыю, павінен мець на ўвазе, што калі ён карыстаецца ангельскім ці расейскамоўным, а ня польскім Windows'ам, то яго чакаюць праблемы са спэцыфічнымі польскімі літарамі. Іх можна вырашыць, калі пакорпацца ў мэханізмах Windows, альбо проста пазначыўшы сабе, які знак якой літары адлавядае. Калі вы крыху ведаеце пальшчызну, гэта ня надта складана. Каштуе кампакт у польскіх крамах каля сарака даляраў. Нямала, але пірацкіх вэрсіяў пакуль не чакаецца.

**Вацлаў Арэшка**

## Навіны




Па меры таго, як тэхналёгія вядзе да меншага, менш груваскага і менш энэргаспажывальнага абсталяваньня Брытанскі Тэлеком выпусьціў на рынак рабочы прататып "Офісу на руцэ", пра пляны стварэньня якога было абвешчана два гады таму, што гучала тады як чыста футурыстычная ідэя.

Распрацаваная ў лябараторыі фірмы ў Мартлешаме, што на ўсходзе Англіі, абсталяваньне мацуецца раменчыкам на руку і выкарыстоўваецца ў камплекце з шлемам віртуальнай рэальнасьці ды мікрафонам.

[На фатаздымку паказаны прататып абсталяваньня, якое выпрабоўвае супрацоўніца Брытанскага Тэлекому].

Пры выкарыстаньні мабільнай тэлефоннай сувязі кампутар можа напрамую зьвязвацца зь іншымі кампутарамі ў офісе карыстальніка ці яго калегаў.

У склад абсталяваньня ўваходзіць вадкакрышталёвы каляровы дысплей фірмы "Casio", мікрапрацэсар фірмы "Apple Macintosh", апэратыўная памяць на 32 мэгабайты, жорсткі дыск на 500 мэгабайтаў ды мініятурная клявіятура. Сыстэма распазнаваньня голасу дазваляе праз мікрафон аддаваць кампутару каманды без дапамогі клявіятуры.

21 кастрычніка 1996
№ 29 (67)

Віліс Лацыс

# КРАІНА

Ягоная эксцэленцыя міністар юстыцыі і ўнутраных справаў Тарабумбіі Бурбуліс* сядзеў у сваім службовым кабінэце і паглыбляўся ў справаздачы ведамстваў. Усё было ў парадку, выдаткі да цэнта сходзіліся з прыбыткамі, апошняя драбніца адпавядала нормам бюджэту.

Бурбуліс ужо другі год кіраваў міністэрствам унутраных справаў і юстыцыі Тарабумбіі. Цяпер яму падпарадкоўваўся ўвесь выканаўчы апарат: паліцыя, грамадзянская міліцыя, суды і турмы. І зь дзіўнай празорлівасьцю ён ужо думаў пра падпарадкаваньне сваёй кампэтэнцыі трэцяга — вайсковага ведамства. Усе ўзброеныя і юрыдычныя сілы ў адных руках! Бурбуліс — камандзір на зямлі, моры і ў небе!

У цішы кабінэта гэты чалавек захапляўся марамі, годнымі Напалеона. Праўда, ён ня ўмеў камандаваць палкамі, стратэгія і тактыка былі для яго чужымі паняцьцямі, але ў гэтым стагодзьдзі не заўсёды лёс народаў вырашаўся на полі бітвы.

Міністар гартаў адну за адной старонкі справаздачы, там-сям ставіў чырвоным алоўкам запытальнік, падкрэсьліваў адну-другую лічбу. Раптам Бурбуліс зварухнуўся, ажывіўся і зь непрыхаванай цікаўнасьцю нахіліўся над аркушам паперы.

«Дзяржаўныя турмы далі чыстага прыбытку 846255 франкаў».

Ягоную эксцэленцыю вельмі ўразіў гэты факт, гэта гучала амаль неверагодна. Бурбуліс паглыбіўся ў падрабязнасьці справаздачы турэмнага ведамства. Вялікія прыбыткі паступілі зь месцаў катаржнай працы, каменяломняў і тарфяных балотаў, але таксама й турэмныя майстэрні далі прыбытак.

— Гм...

Міністар глыбока задумаўся. Турмы аказаліся выгадным прадпрыемствам — нават пры той прымітыўнай арганізацыі, пры якой яны існавалі дагэтуль. Але каб там правесьці рэформы... усталяваць усё на асновах сучаснага грамадзтва...

Бурбуліс ускочыў, пачаў нэрвова крочыць па кабінэце. У ягоных мазгах зьявілася нейкая ідэя, настолькі сьмелая і бліскучая, што ў яе стваральніка пацямнела ў вачах ад захапленьня. Вялікая мара, — мара пра ўладу, — здаецца, збывалася.

Бурбуліс энэргічна націснуў кнопку на пісьмовым стале. Увайшоў сакратар.

— Я сёньня не прымаю. Нікога, абсалютна нікога. Паклапаціцеся, каб мне не перашкаджалі.

— Пастараюся, Ваша эксцэленцыя!

Як толькі за чыноўнікам зачыніліся дзьверы, Бурбуліс сеў за пісьмовы стол і пачаў працаваць.

* Бурбалка (латыск.)



*Віліс Лацыс (1904–66), латыскі пісьменьнік. Аўтар трылёгіі «Бскрылыя птушкі», раманаў «Сын рыбака», «Бура» і іншых. Казка «Краіна турмаў» напісаная ў 1933 г. Друкуецца зь нязначнымі скарачэньнямі.*

## 2

На пісьмовым стале ўзрастаў стос аркушаў. Позна ўначы Бурбуліс паставіў апошнюю кропку і ўздыхнуў з палёгкай.

«Ну вось і гатова. Цяпер толькі арганізаваць і запусьціць машыну...» Ён узважыў пачак паперы, усьцешаны, што зрабіў вялікую працу. Гэта быў вялізны плян, геніяльны праект, зусім новая канстытуцыя дзяржавы. Усё было пабудавана на, здавалася б, непрыкметных заўвагах у гадавой справаздачы міністэрства.

«Дзяржаўныя турмы далі чыстага прыбытку 846255 франкаў».

Турмы прыносілі дзяржаве прыбытак — ня толькі маральны, у сэнсе грамадзкай бясьпекі, але й матэрыяльны, у прыгожых звонкіх франках. Выгаднае прадпрыемства трэба было пашыраць да магчымых межаў, каб дзяржава атрымлівала з турмаў яшчэ больш прыбытку. Плян Бурбуліса прадугледжваў паступовае пераўтварэньне турмаў у грандыёзнае грамадзкае прадпрыемства.

Прадугледжвалася заснаваць апарат спэцыяльнай службы на чале з дырэкторыяй і генэральным дырэктарам. Гэты пост Бурбуліс вырашыў пакінуць за сабой. У дырэкторыю ён хацеў запрасіць асабліва карысных, дасьведчаных і ўладалюбных асобаў. Гэта былі генэральны пракурор Вярхоўнага суду Тарабумбіі Цылпа, старшыня парлямэнцкай заканатворчай камісіі Упіс, камандзір арміі і начальнік генштаба Дурэ, вярхоўны камісар грамадзкай міліцыі Вілкс, прэзыдэнт выдавецкага канцэрну Вейш і прафэсар народнай гаспадаркі Скайтліс*.

«Генпракурор Цылпа атрымае пасаду адміністрацыйнага дырэктара... — вырашыў Бурбуліс. — Яму трэба перадаць жывую сілу, працоўную армію. Парлямэнтарыст Упіс стане юрыдычным дырэктарам прадпрыемства і паклапоціцца пра прыняцьце ў парлямэнце патрэбнага нам закону. Генэрал Дурэ возьме на сябе абавязкі дырэктара па бясьпецы і прымусіць свабодных грамадзянаў Тарабумбіі паважаць аўтаномнае турэмнае прадпрыемства, а калі неабходна, нават увядзе ў дзяржаве вайсковае становішча. Вярхоўны камісар Вілкс зоймецца падтрыманьнем дысцыпліны і парадку ў сьценах прадпрыемства; яму будуць падпарадкаваныя ўсе турэмныя наглядчыкі. Прэзыдэнт выдавецкага канцэрну Вейш будзе лічыцца дырэктарам асьветы і будзе настройваць грамадзянаў прыхільна да нашых рэформаў. Прафэсар Скайтліс узначаліць грамадзкі аддзел дырэкторыі. Але я сам буду загадваць усім».

Прыняўшы рашэньне, Бурбуліс уласнаручна напісаў шэсьць лістоў аднолькавага зьместу:

«Вельмішаноўны пан! Пэўная надзвычай цяжкая справа (у маштабах усёй дзяржавы) прымушае мяне зьвярнуцца да Вас з просьбай зьявіцца на прыватную сустрэчу ў маёй рэзыдэнцыі 19 красавіка гэтага году а 21 гадз. Вельмі пажаданая пэўная канспірацыя, прынамсі, не афішуйце візыт.

З шанаваньнем міністар юстыцыі і ўнутраных справаў К.Бурбуліс».

19 красавіка ўвечары, ад якога гісторыкі Тарабумбіі пачынаюць новую эпоху ў гісторыі сваёй дзяржавы, вядомую ў падручніках пад назвай «Турэмны пэрыяд», у рэзыдэнцыі міністра Бурбуліса сабраліся ўдзельнікі нарады. У зачыненым кабінэце разьмясьціліся будучыя дзяржаўныя дырэктары. Ім падалі каву з каньяком. Тады ініцыятар сустрэчы Яго эксцэленцыя Бурбуліс узяў слова і пазнаёміў прысутных з сваім плянам. І пакуль ён гаварыў, паноў ахоплівала ўсё большае ўсхваляваньне. Прафэсар Скайтліс цёр нос, парлямэнтарыст Упіс чухаў сваю бародку італьянскага маркіза, вярхоўны камісар Вілкс ня зводзіў бліскучых вачэй з Бурбулісавага твару, а генэрал Дурэ гуляўся з ордэнамі на сваіх надзьмутых грудзях. Шэф прэсы Вейш тое-сёе запісваў у нататнік. Толькі генпракурор Цылпа сядзеў спакойна, як сфінкс, не выдаючы сваёй усхваляванасьці.

* Празьвішчы чыноўнікаў: Пятля, Філін, Кулак, Воўк, Вецер, Лічба (латыск.)

Калі Бурбуліс скончыў, паны як на каманду ўсталі і працягнулі рукі міністру:

— Мы зробім усё, што ў нашых сілах.

Быў падпісаны ўжо загадзя падрыхтаваны акт аб заснаваньні «Ўзорнай дзяржаўнай гаспадаркі». Дырэктары занялі свае кіраўнічыя пасады, і пасьля гэтага ім падалі напоі — халодныя і гарачыя.

Тарабумбія спала глыбокім сном, не здагадваючыся, што гэтай ноччу зьявілася новая ўлада, большая за ўсе ранейшыя, невядомая, небывалая і страшная сваёй непрыкметнасьцю.

«Вось ён — адзіны дыктатар, правадыр...» — ганарліва думаў Бурбуліс, углядаючыся ў люстра пасьля адыходу дырэктараў. І здавалася так дзіўна, — няверагодна і сьмешна, — што гэты маленькі, тоўсьценькі чалавечак, што глядзеў насупраць вузкімі прыжмуранымі вочкамі, цяпер быў невядомым уладаром лёсу ўсёй дзяржавы, мільёнаў людзей і вялікіх гарадоў.

Потым ён пайшоў спаць і бачыў сны: Папа Рымскі яго каранаваў на загадчыка Сусьветнай Турмы. Зьвязка ключоў была ягонай рэгаліяй, замест дзяржавы Бурбуліс трымаў у руцэ кайданы. А скіпэтар... Тут ён прачнуўся. На дварэ яшчэ чарнела ноч. За вокнамі вецер шамацеў у дрэвах, і яны нізка згіналіся, нібыта засьведчваючы сваю пакорлівасьць дыктатару. Гэта было прыемна.

## 3

На наступны дзень усе газэты Тарабумбіі запоўніліся зьвесткамі пра зьдзейсьненыя ў дзяржаве злачынствы. Уварваньні, забойствы, гвалтаваньні, крывавыя сутычкі сп'яна і злосныя хуліганствы па ўсёй Тарабумбіі ад краю да краю... Старонкі газэтаў стракацелі яркімі апісаньнямі злачынстваў. Многія забойствы былі зьдзейсьненыя з жудасным зьверствам — ад адных апісаньняў сэрца мірнага грамадзяніна трымцела са страху.

Гэта быў адзін бок. З другога шалелі палітычныя элемэнты, разбуральнікі дзяржавы, шпіёнскія арганізацыі, фанатыкі-анархісты і падбухторшчыкі бунтаў, страйкаў і галодных шэсьцяў. Цэлы тыдзень працягвалася гэтая плынь страшных зьвестак. Здавалася, Тарабумбію канчаткова акупавалі масы злачынцаў, ніводзін грамадзянін ужо ня мог быць пэўны сваёй маёмасьці і жыцьця, — дзяржава знаходзілася на парозе небывалага хаосу і разбурэньня.

— Чаму парлямэнт і ўрад ня рупяцца пра лёс нашай краіны? — гучалі адчайныя «галасы грамадзтва».

— Трэба пачакаць колькі дзён, — сказаў Бурбуліс. — А тады хай прагучыць «голас народу».

У газэтах сярод новых апісаньняў злачынстваў зьявіліся доўгія артыкулы, у якіх грамадзкія работнікі, юрысты і псыхіятры выказвалі свае думкі пра тое, які можна перамагчы крымінальную навалу. Калі такім чынам быў створаны неабходны настрой у народзе, Упіс вынес на разгляд у парлямэнце пытаньне аб узмацненьні барацьбы супраць злачыннасьці.

— Мы бачым, якое ўзбуджэньне ахапіла народ! І гэта зразумела: жыць у такой злавеснай атмасфэры, калі кожную хвіліну трэба чакаць найгоршага, згубіць жыцьцё або назапашаную за доўгія гады маёмасьць, — гэта не па сілах ніводнаму з нас. Ня можа быць гутаркі пра мірную працу, пра сумленнае выкананьне сваіх абавязкаў у цені сьмерці і зьнішчэньня. Доўга гэта працягвацца ня можа, гэтай паніцы трэба пакласьці канец! Народ чакае ад нас, — ягоных прадстаўнікоў, — што мы зноў забясьпечым нармальныя ўмовы жыцьця!

Потым ён зачытаў новы законапраект. За кожны праступак былі прадугледжаныя фантастычныя прысуды — доўгія гады катаргі. Прысуды на арышт і зьняволеньне былі адмененыя, на іхняе месца ўведзена катаржная праца, прычым гэта тычылася таксама й асуджаных раней. Беручы пад увагу сёньняшняе становішча, тыя, хто адбыў свой тэрмін, не вызваляліся, бо іхняе вяртаньне на волю толькі пагражала грамадзкаму спакою і парадку. Іх трэба было абсьледаваць спэцыяльна. Дзеля гэтай мэты была заснаваная псыхіятрычная камісія, якая вызначала ступень іхняй схільнасьці да злачынства і прымала рашэньне аб вызваленьні або затрыманьні ў месцы зьняволеньня.

Законапраект быў прыняты ў тэрміновым парадку пераважнай большасьцю галасоў. Шэф прэсы Вейш і парлямэнтарыст Упіс справіліся са сваёй працай. Тады пачаў дзейнічаць генпракурор Цылпа. Судовы апарат працаваў у шалёным тэмпе. Кожны дзень засуджвалі вялікіх і малых шкоднікаў. Крадзяры, задзіры, дробныя махляры ды хуліганы з прадмесьцяў селі на лаву падсудных разам з адпетымі рэцыдывістамі. Паліцыя абкружала начлежкі, піўнухі, прытоны і маліны і без разбору саджала ўсіх, хто там трапляўся. За бадзяжніцтва пагражалі два гады катаргі — найменшы тэрмін паводле новага закону. Суд асабліва не цырымоніўся. За кароткі час лічба вязьняў у Турабумбіі падвоілася. Разам з тым падвоіліся таксама кадры наглядчыкаў, работнікаў туды набіралі з грамадзянскай міліцыі.

Каб эфэктыўна выкарыстаць засуджаных, былі пашыраныя торфаздабыча і каменяломні. Камяні і торф у значнай меры выкарыстоўвалі тут, у Тарабумбіі, але частку экспартавалі за мяжу. Пры кіраўніцтве турмаў заснавалі грамадзкі камітэт, які ўзначаліў прафэсар Скайтліс. А тады ўзяліся за вялікую працу: лесапавал, будаўніцтва чыгунак, мастоў і ТЭЦ. Дзяржава дала прыярытэт ува ўсіх сваіх працах грамадзкаму камітэту кіраўніцтва турмаў — так атрымлівалася таньней. Каб засуджаных лепш выкарыстоўваць, ім штодня ўколвалі дозу нядаўна вынайдзенай «сыроваткі працавітасьці», якая цалкам здымала стому, санлівасьць і ляноту. Дзякуючы гэтай сыроватцы катаржнікаў можна было выкарыстоўваць па шаснаццаць гадзінаў у дзень на самай інтэнсіўнай працы.

Пры пашырэньні фронту працы асабліва адчуваўся брак розных спэцыялістаў. Непазьбежна трэба было арыштаваць і засудзіць шмат інжынэраў, архітэктараў ды іншых спэцоў. Тайныя агенты грамадзянскага камітэту зьбіралі зьвесткі пра адпаведных работнікаў. Шмат хто зь іх быў беспрацоўным, але рэдка каму можна было «прышыць» які-небудзь з артыкулаў новага закону.

— Гэты закон недасканалы... — сказаў Бурбуліс на тайным паседжаньні дырэкторыі. — Нам трэба яго перарабіць. Але сьпярша выслухаем паведамленьне прафэсара Скайтліса пра грамадзкае становішча і працу прадпрыемства.

Прафэсар гаварыў больш за гадзіну.

— Цяпер у турмах Тарабумбіі знаходзіцца 15% усіх жыхароў дзяржавы. Усе яны занятыя на стваральнай працы. Нашае прадпрыемства па частках пераймае ўсю горную, лясную і торфаздабыўчую прамысловасьць. На многіх вялікіх фабрыках працуюць толькі вязьні. Цяпер вядуцца перамовы з фэрмэрамі аб выкарыстаньні засуджаных у сельскагаспадарчай працы. У сярэднім кожны засуджаны каштуе дзяржаве, — уключна з аховай і апаратам кіраўніцтва, — 1 франк 20 цэнтаў у дзень, але ягоная праца дае 3 франка 15 цэнтаў. Значыць чысты прыбытак з кожнага засуджанага 1 франк 95 цэнтаў у дзень. Апошнім часам у нас адкрыліся новыя напрамкі працы і зьявілася патрэба ў новых работніках. Але паводле зьвестак статыстычнага бюро ўвесь кантынгент злачынных элемэнтаў ужо вычарпаны. Новых вязьняў няма адкуль браць. Грамадзяне, што знаходзяцца на волі, жывуць у строгай адпаведнасьці з патрабаваньнямі дзяржаўных законаў. У такіх абставінах мы вымушаныя адмовіцца ад многіх грандыёзных праектаў, рэалізацыя якіх патрабуе многіх тысячаў рабочых рук.

Прафэсар змоўк. Генэральны дырэктар Бурбуліс хвілінку падумаў, потым спытаў з рэзкай інтанацыяй ў голасе:

— Ці ня мае што сказаць нам дырэктар Цылпа. У ягоныя абавязкі ўваходзіць забесьпячэньне працоўнай сілай.

Генпракурор шморгнуў носам, устаў і сказаў:

— Я не забыўся пра свае абавязкі. Але няхай пан дырэктар не забывае, што кожны абавязак залежыць ад права і гэтак далей. Уладу, дадзеную мне законам, я выкарыстаў ува ўсёй паўнаце. Кожнаму злачынцу прысудзіў максымальны тэрмін і толькі дзякуючы маёй пасьлядоўнасьці цяпер за кратамі 15% усіх грамадзянаў дзяржавы. Вы пытаецеся, адкуль узяць новых вязьняў? На маю думку, гэта вельмі простая справа. Калі рыбак ловіць рыбу надта рэдкай сеткай, тады ён можа злавіць толькі буйную рыбу — уся драбнейшая праходзіць скрозь сетку. Калі мы хочам сеткай сваіх судоў налавіць грамадзянаў, якія дагэтуль бяз шкоды выбіраліся адтуль, тады нам трэба сплесьці сетку з грубейшага льну і гэтай сеткай ахутаць усё жыцьцё тарабумбійцаў.

Прафэсар Скайтліс прапанаваў прызнаць беспрацоўе за злачынства, маўляў, дабрабыт дзяржавы грунтуецца на працы грамадзянаў. Абавязак кожнага грамадзяніна спрыяць росквіту сваёй дзяржавы. Але хто не працуе, той шкоднік, сабатажнік, небясьпечны паразыт, які сваім кепскім прыкладам можа сапсаваць таксама й працавітых грамадзянаў. Цяпер, калі працягваецца крызыс, беспрацоўныя складаюць прыкладна 20% ад усіх жыхароў Тарабумбіі...

Якраз 19 красавіка, праз год пасьля заснаваньня акцыйнага таварыс-

# ТУРМАЎ

## *Казка XX стагодзьдзя*

ва, выйшаў новы закон, які ўступаў у сілу з дня публікацыі. У адну ноч былі арыштаваныя 60000 беспрацоўных. На працягу тыдня пахапалі і ўсіх астатніх. 35% грамадзянаў Тарабумбіі былі цяпер ператвораныя ў вязьняў і насілі паласатую арыштанцкую вопратку.

**4**

Калі сьцьвярджаць, што ўсё адбывалася спакойна, без супраціву і пратэсту, гэта была б няпраўда. Ужо на пачатку пэрыяду рэформаў, калі пачаліся прысуды на доўгі тэрмін, і калі тыя, хто адбыў тэрмін, ужо не вызваляліся з зняволеньня, у прэсе зьявіліся неспакойныя разважаньні, але яны толькі сталі прычынай для новага закону, які забараніў крытыкаваць захады кіраўніцтва. За невыкананьне закону пагражалі катаржныя працы да пяці гадоў. На працягу месяца былі ізаляваныя ўсе апазыцыйныя журналісты.

Вялікія хваляваньні ўзьняліся пасьля прыняцьця закону аб беспрацоўных. Прафсаюзы правялі сходы пратэсту, на палях і ў парках зьбіраліся дэманстранты, на мітынгах па-рознаму падбухторвалі супраць небывалага гвалту, які падмінаў кожны дзень усё большыя масы людзей. Але дырэкторыя толькі й чакала гэтага: адзін за адным прымаліся новыя захады. Прафсаюзы распусьцілі, арыштаваўшы ўсіх членаў; сходы і рознага роду дэманстрацыі забаранілі — за ўдзел у падобных справах пагражала катаржная праца на нявызначаны тэрмін. Гэты закон меў зваротную сілу, і тады былі кінутыя за краты многія тысячы незадаволеных грамадзянаў. Іх зьмясьцілі ў спэцтурмы, у строгую ізаляцыю, каб яны не маглі сваёй палітычнай агітацыяй сапсаваць шчырыя масы крымінальных злачынцаў.

Пасьля таго Бурбуліс скіраваў свой удар супраць парлямэнту, дзе шумелі розныя радыкалы, сацыялісты і дэмакраты. Бачачы, што знайсьці кампраміс з гэтым наўтопам немагчыма, Бурбуліс зьвярнуўся да выпрабаванага сродку: ён разагнаў парлямэнт, абвясьціўшы, што гэта непатрэбная сучаснаму грамадзтву ўстанова. Дэпутатаў пасадзілі. Так была адсунута апошняя перашкода.

Дырэкторыя, узяўшы на свае плечы ня толькі паўнату ўлады, але таксама й народнае прадстаўніцтва, магла распачаць рэалізацыю вялізнага пляну. Перш за ўсё яна зьліквідавала дзяржаўны кантроль як шкодны для інтарэсаў дзяржавы. Потым забараніла працаваць адвакатам, вельмі дасьціпна вырашыўшы гэтую праблему. Кожны адвакат, які абараняў у судзе несправядлівую справу, атрымліваў такі самы прысуд, як і ягоны кліент. Але ж генпракурор Цылпа засуджваў усіх, хто толькі трапляў у суд, таму адвакаты прызналі за разумнейшае ня брацца больш за вядзеньне справаў.

Войска ператварылі ў батальён турэмных наглядчыкаў, пакінуўшы толькі трэцюю частку для аховы межаў. Ува ўсіх канцах дзяржавы праводзілася вялікая перабудова. Вялізныя гарадзкія будынкі ператвараліся ў турмы, у полі будаваліся канцэнтрацыйныя лягеры. Гарады абкручвалі калючым дротам з токам высокага напружаньня.

Прадпрыемства расло, як рак, ахопліваючы сваімі клюшнямі ўвесь дзяржаўны арганізм. Рукі дырэкторыі дабраліся да ўсёй вытворчасьці дзяржавы, бо дзяржава лічылася адзіным спадчыньнікам маёмасьці засуджаных. Сялянаў падпарадкавалі строгай працоўнай дысцыпліне. Яны аралі, сеялі і жалі пад наглядам узброеных ахоўнікаў; кожны дзень пасьля абеду спэцыяльны фэльдшар уколваў кожнаму «сыроватку працавітасьці». Статус вязьня пачалі кваліфікаваць як ганаровы. І, на дзіва, не бракавала грамадзянаў, якія дабраахвотна працягвалі рукі, каб на іх накладалі кайданы.

Але на сьценах будынкаў, платоў і ўсіх грамадзкіх прыбіральнях зьявіўся бессаромны надпіс:

«Бурбуліс, прасьпіся ад ачмурэньня ўладай!»

Гендырэктар не зьвяртаў увагі на такія дробязі. Ён толькі афіцыйна абвясьціў сваю дыктатуру і ўзяў на сябе кіраваньне ўсімі міністэрствамі. Ад дзяржаўнага бюджэту кожны год заставалася рэшта, якую пераводзілі ў сакрэтны фонд дырэкторыі. На пачатку пятага году турэмная справа была законна прызнаная найбольш адпаведнай формай грамадзкага ладу, і ўсе грамадзяне Тарабумбіі абвешчаныя вязьнямі пажыцьцёва.

З грамадзкай думкай дырэкторыі ўжо не выпадала лічыцца, таму што не было ніякага грамадзтва, а толькі вязьні, а яны, — як прынята ўва ўсіх культурных краінах, — не лічыліся за грамадзтва.

Хоць лічылася, што ў дзяржаве ёсьць толькі адна кляса —вязьні, на самой справе іх было дзьве: правамоцныя і неправамоцныя. Правамоцная ўключала надзейных для дырэкторыі турэмных наглядчыкаў, наглядчыкаў за працай і праслойку адказных спэцыялістаў, якім для бясьпекі час ад часу гіпнозам уводзілася пакорлівасьць у дачыненьні да кіруючай клікі. Неправамоцныя падзяляліся таксама на касты абсалютна ненадзейных і трошкі надзейных. Апошнія карысталіся многімі перавагамі: ім давяраліся адказныя галіны працы, сярод іх набіралі маракоў і транспартных рабочых. Акрамя маракоў і дыпляматаў ніводзін грамадзянін Тарабумбіі ня мог пакінуць тэрыторыю сваёй дзяржавы.

Дзяржава квітнела. Тайны фонд дырэкторыі павялічваўся.

— Дыктатура — гэта найвышэйшая форма свабоды! — казаў Бурбуліс.

**5**

Доўгі турэмны тэрмін зьмяніў тарабумбійцаў духоўна і цялесна: гэта было зборышча мізэрных рабоў зь вялікімі, як з голаду апухлымі галовамі, па-ідыёцку аднастайнымі тварамі, змучанымі, тусклымі вачыма. Працуючы па шаснаццаць гадзін у дзень, гэтыя людзі хутка зношваліся, і да сарака гадоў станавіліся бясьсільнымі старымі.

Высокае становішча закруціла галаву гендырэктару Бурбулісу, што тлумачылася ягоным спадчынным малакроўем. Чым больш станавіліся багацьці дырэкторыі, тым больш расло і ўладалюбства Бурбуліса. Ён ужо не цярпеў побач з сабой нікога роўнага. Адно за адным ён ліквідаваў прывілеі, якімі былі надзеленыя дырэктары, турэмныя наглядчыкі ды адказныя спэцыялісты. Ён зьняў з пасады генэрала Дурэ, вярхоўнага камісара Вілкса, і генпракурора Цылпу, узяўшы на сябе іхнія абавязкі і правы. Шэф прэсы Вейш ужо даўно быў абвінавачаны ў маладушнасьці, і яго скіравалі на катаржную працу ў далёкую турму. Парлямэнтарыст Упіс памёр, а прафэсар Скайтліс захварэў на старэчую прыдуркаватасьць.

Сьвятароў закавалі ў кайданы, а турэмныя наглядчыкі мяняліся зь вязьнямі — іхнія абавязкі па чарзе выконвалі самі вязьні. Тады кожны меў магчымасьць паўладарыць над іншымі. Гэтая завядзёнка з самага пачатку паказала сваю большую карыснасьць і надзейнасьць, чымся сталы інстытут турэмных наглядчыкаў, таму што ніхто ня ведаў штучак і хітрыкаў вязьняў лепш за саміх вязьняў.

Такім чынам Бурбуліс зрабіў, на ягоную думку, вялікую працу: з усіх вяршалін ён саштурхнуў змучаны народ у бездань. Урэшце дыктатар пераежыў дзень вялікага трыюмфу, калі ён адзіны ўзьняўся над наўтопам, гуртом рабоў, — неабмежаваны ўладар і адзіная вяршаліна. Але вялікі правадыр пайшоў яшчэ далей: Тарабумбію ён абвясьціў Бурбуліяй, таму што так гэта гучала больш прыемна, і ў гэтай назьве быў вядомы ўнутраны сэнс. Сталіцу ён перайменаваў у Бурбульград, як і многія іншыя значныя гарады, кожнаму зь якіх дзеля адрозьненьня надаўшы свой нумар, напрыклад, Бурбульград 1 і г.д.

**6**

Вынішчыўшы прывілеяваную праслойку, Бурбуліс дапусьціў вялікую памылку, наступствы якой яму трэба было б убачыць у прыкладах з сусьветнай гісторыі, — ён не захаваў прынцып раўнавагі. А зь перадгістарычных часоў да нашых дзён бачна, што самыя вялікія аўтакраты і дэспаты сваю ўладу абапіралі на пэўных клясах і праслойках людзей: войску, шляхце, царкве, буржуазіі. У сьляпым імкненьні да самаўладзьдзя Бурбуліс пакрыўдзіў усіх грамадзянаў, абразіў усіх і падштурхнуў на бунт: ён не клапаціўся пра падзел масы, пра тое, каб клопат прывілеяваных за захаваньне свайго выключнага становішча быў супрацьвагай нянавісьці прыгнечаных. І такім чынам дыктатар застаўся зусім адзін супраць усяго народу, сам са сваёй прыдуманай моцай, якая хутка аказалася фіктыўнай.

Сярод вязьняў, нягледзячы на доўгія гады, праведзеныя на катарзе, яшчэ знайшліся сьветлыя галовы, якія ўважліва сачылі за кожным крокам дырэкторыі. Калі Бурбуліс у сваёй палітычнай блізарукасьці зьліквідаваў усе грамадзкія групы, яны зразумелі, што надыйшла гадзіна свабоды. У турмах пачалася палкая агітацыя. Замест казаньняў кожны вечар па ўсёй Бурбуліі гучалі палымяныя прамовы бунтаўнікоў. І павольна, але грунтоўна вязьні пачалі разумець, што дыктатар — нуль, што за ім не стаіць рэальная сіла, што магутны толькі той, за кім ідзе народ. Ад яго самога залежыць — пагадзіцца з рабствам або скінуць кайданы.

На пятнаццатыя ўгодкі Бурбулійскай турэмнай дзяржавы здарыўся выпадак — зьнешне непрыкметны, але вельмі важны для далейшай гісторыі дзяржавы. Дыктатар загадаў усім сталічным вязьням сабрацца перад сваім палацам на вялізным полі, якое з усіх бакоў было абнесенае высокай загароджай з калючага дроту. З гаўбца палацу ўладар прамовіў да народу. Ён расказаў, як прамінулі пятнаццаць гадоў турэмшчыны, якія парадак і спакой пануюць цяпер па ўсёй дзяржаве.

— Няма страйкаў. Усе падаткі адмененыя, бо дзяржава ўсё пакрывае з сваіх сродкаў. Галовы маладых не пакутуюць ад непатрэбных ведаў. Няма ўжо ні багатых, ні бедных, ёсьць толькі вязьні, якім даступны аднолькавы для ўсіх жыцьцёвы стандарт. Таму зьнікла зайздрасьць, узаемная нянавісьць ды іншыя злачынныя страсьці, якія нараджаюцца з чалавечай сквапнасьці. Пачалося залатое стагодзьдзе гісторыі Бурбуліі. Каб ушанаваць рэфарматара, я заклікаю прысутных гукнуць у мой гонар: «Няхай жыве Бурбуліс!»

Ён змоўк, гатовы з бацькоўскай дабрынёй выслухаць радасныя крыкі наўтопу.

Але наўтоп маўчаў. Сотні тысячаў твараў нема глядзелі на дыктатара. Бурбуліс здрыгануўся ад страшнага прадчуваньня. Тады ён закрычаў:

— Вязьні! Я вам загадваю крыкнуць у мой гонар «Няхай жыве!»

Гукаўзмацняльнікі разьнесьлі гэтыя словы па ўсім полі. Але наўтоп не зварухнуўся, ніводныя вусны не раскрыліся для крыку. Панавала такая ціша, што можна было пачуць подых людзей.

Гэта была дзіўная, небывалая, нечувальная, але страшная катастрофа. Народ не падпарадкоўваўся. Тады ў наўтопе загучаў голас:

— Што тут стаяць, пайшлі дадому!

І адразу маса зварухнулася, праз усе брамы пачала выплываць на вуліцы, павольная, спакойная і нястрымная. Дыктатара душыў страшны гнеў. Як малпа ў клетцы, ён кідаўся з аднаго кута гаўбца ў другі, махаў рукамі і крычаў:

— Назад! Я загадваю! Я ваш уладар, і вы павінны падпарадкоўвацца мне! Улада належыць мне!

Вецер сьмеху прашамацеў па вуліцах і полі. Народ трушчыў агароджы з калючага дроту, нішчыў цяжкія кайданы, ламаў замкі камэраў і пастарункаў і цэлымі вазамі вёз гэта на рэчку тапіць. На тым месцы вырас востраў. На турэмных дварах успыхнулі вогнішчы, на якіх палілі партрэты дыктатара. Нешта падобнае на веснавую паводку кацілася па вызваленай зямлі.

Дыктатар бегаў ад адной турмы да другой, даваў адзін загад за другім, сыпаў прысуды налева і направа, але народ не зьвяртаў на яго ўвагі, быццам гэта быў пусты, нябачны дух, які насіўся навокал.

— Я ваш уладар, а вы павінны мне падпарадкоўвацца! —надрываўся Бурбуліс. — Улада належыць мне!..

Народ зьнішчыў Бурбуліса поўным ігнараваньнем. Даў яму бегаць, буяніць, дэманстраваць паўсюль пустую, абстрактную сутнасьць улады і толькі пасьмейваўся з фанабэрыстых паводзінаў старога.

... Прайшлі гады. Турэмная дзяржава рухнула, і на яе руінах вырасла новая, вольная Тарабумбія. Аднавіліся навука і мастацтвы, квітнела народная супольнасьць. Усе грамадзяне сталі роўнымі перад правам і абавязкамі. Але па дарогах Тарабумбіі яшчэ доўга туляўся нейкі звар'яцелы дзядзька, брудны, зарослы шчацінай і сьмярдзючы. Ён уваходзіў у вёскі і затрымліваў кожнага сустрэчнага, гаварыў рэзка і ўладарна пра свае адабраныя правы і пагражаў.

Людзі спачувальна ўсьміхаліся і казалі:

— Гэта ж стары Бурбуліс. Той, прыдуркаваты...

Яму давалі есьці і сьцялілі дзенебудзь на падлозе. Гэта ўсё ён прымаў з урачыстым выглядам, як належнае. З раніцы ён цягнуўся далей — самотны, незразумелы і звар'яцелы.

**Пераклаў з латыскай Валеры Буйвал**

ЗАНАТОЎКІ ЭГАІСТА

Адам Глёбус

# ЦЫТАТЫ З КАМЭНТАРАМІ



**Сьвята любові**

Прачытаў у вялікага Іса: «Жыцьцё ўсіх істотаў і стварэньняў, нават блыхі і вошы, павінна цаніцца нароўні з жыцьцём чалавека. Забіць жывое падчас злучэньня — найвялікшы грэх».

І ўспомніўся аповед дачкі пра тое, што суседка Наташа забіла злучаных белых матылькоў.

— А яны ж маглі й пажаніцца на сьвяце любові, — ушчувала васьмігадовае дзіця.

**Праўда**

«Да жывых варта ставіцца дабразычліва, а вось пра мёртвых трэба гаварыць толькі праўду», — прачытаў у Вальтэра і зазначыў вельмі рацыянальны падыход да ўласных паводзінаў. Адзінае, што варта дадаць, — калі зьбіраесься гаварыць праўду пра мёртвых, памятай пра ўласную сьмерць.

**Півоня**

«Гайдаюцца хвалямі грудзі пяшчотныя, і кроплі жаданай расы імкнуцца да самага сэрца півоні», — сказ з кітайскага рамана «Цзынь, Пін, Мэй» ілюструе асабіста для мяне дык і вельмі ярка півоню як сымбаль жаночага ўлоньня.

**Гонар і слава**

«Гонар больш каштоўны за славу», — сьцьвярджае Шамфор. І можна было б зь ім пагадзіцца, каб толькі займець першае і другое ў дастатковай колькасьці.

**Цела**

«Нябожчыкаў трэба выкідаць хутчэй, чым гной», — гаворыць Геракліт. Пярэчыць ня варта. Трэба апекавацца ўласным целам ня толькі пры жыцьці, але й пасьля яго. Варта ўслухацца ў беларускае параўнаньне — прыгожы, як труна.

**Жаданьні**

«Ня лепш было б людзям, каб спаўнялася ўсё, што яны пажадаюць», — заўважыў Геракліт. Сапраўды. Людзі, чые запаветныя жаданьні споўніліся, нагадваюць інвалідаў-жабракоў.

**Паўсонны стан**

«Ня трэба дзейнічаць і гаварыць нібыта ў сьне», — павучае Геракліт. І можна было б не спрачацца са старажытным грэкам, што толькі «для нядрэмных існуе адзіны й агульны космас (а той, хто сьпіць, павернуты ў свой уласны сьвет)», каб не паўсонны стан, у якім ты пішаш ці чытаеш таго ж Геракліта.

**Пытаньне**

«Толькі няправільныя, павярхоўныя пытаньні маюць адказ, а правільныя, глыбінныя адказу не знаходзяць», — казаў Крышнамурці, які спытаў: «Як гучыць хлапок адной далоні?»

**Вежа**

«На высокую вежу можна ўзьняцца толькі па вінтавой лесьвіцы», — афарызаваў Бэкан. Наіўны, ня ведаў ліфта.

**Дзеля каго?**

«Дзеля каго падмалёўвае бровы жонка сьляпога?» — пытаецца Томас Фулер. Дзеля таго самага Дон Жуана, дзеля якога сьлявае жонка глухога.

**Імпэрыя**

«Цяжка сабе ўявіць, што адбылося б з чалавекам, калі б ён жыў у дзяржаве, населенай літаратурнымі героямі», — піша Джозэф Адысон. На што можна сказаць наступнае... Кожны пісьменьнік шмат часу праводзіць менавіта ў такіх дзяржавах і не шкадуе, бо літаратурныя імпэрыі лепшыя за рэальныя, іх можна пакінуць у адно імгненьне.

**Сяброўства**

«О сябры мае, няма болей ніводнага сябра!» — любіў паўтараць Арыстоцель. Падобны сумны выраз можна вымавіць толькі ў пэўным узросьце, асабіста я паўтарыў арыстоцелеву думку ў 37.

